*Poczta opłacona ryczałtem.*

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 9. 4 чэрвеня 1925 г. Год II.



ДВАТЫДНЕВІК САТЫРЫ, ЖАРТАУ і СЬМЕХУ.



Вядомы пісьменьнік Родзевіч.

...Каб ён ведаў, што тэатральнае мастацтва у беларусоў заглохла, не напісаў ба болей ніводнага сцэнічнага твору, ды мо'нат, кінуў ба зусім пісьменства...

## СТАВІЎ БАНЬКІ.

...Тадора сама добра ня ведала, дзе прастыла: кашляе бедная бухі-ды бухі...

-Можа банькі паставіць?-пытае мужык.

-Хіба пастаў, Баўтручок.

-Бяда, што шклянкі німа, ды і не адна-ж патрэбна.

-А гэты гаршчочак, што зацірку вару,-здаецца не надта вялікі?

-Праўда,-казаў мужык,-і працы мне меней, чым са шклянкамі вазіцца

.............

Як пацягнула жывот Тадоры у гаршчочак...





...Ды як пачала тая енчыць, у Баўтручка пацямнела у вачох; вот, здаецца, яму, што зараз усю Тадору уцягне у гаршчок...і пабег не аглядаючыся па доктара.

Доктар аж засьмяяўся, як прышоўшы угледзіў мучальніцу-бабу ды кіем так стукнуў па гаршку [на шчасьце гліняным] што чарапкі разьляцеліся па ўсей хаце.

-Колькі вам, паночку?-

-Паўрубля,-адказаў доктар, узяў грошы і пайшоў.

Баўтручок пачасаў патыліцу і кажа:

(чытай у чарэ)

-Ну ці-ж у мяне не хапіла-б сілы разьбіць гаршчок?!

-Ох, уся наша бяда у тым, што мы бываем разумны па нешчасьцю.

Сякі-такі.

---

## Без Практыкі.

Раз дзяўчына нанялася
У паноў служыці
І парадак узялася
Зараз навадзіці.
  Прынялась да працы ціха
  Усё чысьціла й мыла
  Ды пасуду, як наліха,
  Усю перабіла.
Паня ўбачыўшы узялася
Адразу сварыцца:
Як да гэтага ты, Кася,
Магла дапусьціцца."
„А мая панічка міла!"
Кажа ей ня сьмела,-
„С-пад капусты бочку мыла-
-Аставалась цэла;
А с талеркамі-не знаю,
Штосьці ні удаецца,
Хоць часамі і ўтрымаю
У руках разабьецца.

С. Крап.

---

## Грамадзяне!

„АВАДЗЕНЬ" ёсьць безпартыйная, беларуская, люстраваная часопісь, якая не мае ніякае помачы ні субсыдзіяў са стараны.

„АВАДЗЕНЬ" трымаецца пры жыцьці толькі с падпіскі. Сваей неакуратнасьцю у перадплаце Вы самі нішчыце сваю адзіную люстраваную газэтку.

Дык прысылайце грошы самі, заахвочвайце да падпіскі сваіх знаёмых!

## ЖАРТЫ.

-Міхась,чаму ты ня ходзіш ужо з Зосяй?
-Але ,не хаджу.
-чаму ж гэта?
-Бо ужо ажаніўся з ею.
М.Г.

----------

Дачка: -Мама скажы праўду-хто гэта была Ева?
Матка|паглядаючы коса на мужа|:
-Гэта была жонка,каторая, таксама,ня мела у што апрануцца.
„Беларус."

----------.

Жанчына да паліцыянта:
-чаго,паночку ,шукаеце пад ложкам?
-Броні,броні...
-Дык пачакайце хвілінку:ён(Бронік)зараз прыйдзе.
Лабудзь.

----------

Спрытны мужык.

Мужык за бутэльку гарэлкі купіў у лясьніка у лесе бярозку. Адзін яе ня здужаў палажыць на воз,папрасіў лясьніка і той узяўся падсабляць,а гэтым часам наехаў пан.

Лясьнік спужаўся,аслупеў,а мужык,кінуўшы воз і лясьніка,са плачом пабег да пана і кажа:

-Панок мілы!Твой лясьнік Цэлы дзені трымае мяне лі ваза за гэту бярозку і цягне мяне да пана.

Даруй панок!

Пан засьмяяўся і ня сердзіўся ды сказаў лясьніку памагчы узлажыць на воз.

Пасьля усяго гэтага лясьнік паставіў мужыку тры бутэлькі [вядома не пустых]за вызбаўленьне перад панам.

франук.

----------

## ЗАГАДКІ.

I.Што трэба зрабіць перад тым як легчы?

2.Не кашуля-а шыта,не чалавек-а гаворыць.

3.Пад якім кустом сядзіць заяц,як дождж ідзе?



Доктар.-Мне дужа прыкра,пане Зубачэўскі,што вы запрашаеце,ласьне, мяне.Ці ня вы толькі гэта на усіх крыжавых крычэлі,што я на той сьвет кірую сваіх пацыентаў?

-Ай,доктар,дык я вас не да сябе,а да цешчы запрашаю.

Л....

oooooooooooooooooooooooooooooo

Дзеля экономіі.

Раз у рэчцы тапіўся жыд,пачаў крычэць:гвалт,ратуйце!

Людзі зьбегліся ды выцягнулі з вады яго.Ачунеўшы ён да ўсіх кажа:

-Ну,..трэба было троху пачакаць, ато за хутка выратавалі.Я-б сабе з вадою падплыў ба да самай хаты, а вось цяпер трэба купляць на чугунку білет.

Г.Л.

----------

Жывы лепшы ад нябошчыка.

Служанка да палкоўніцы:
-Ваш муж нябошчык які меў чын?
-Палкоўніка,а чаму?
-А,бо і я хутка буду „палкавой" дамай.
-Ты,як жаж гэта?
-Я іду замуж за ваеннага вахмістра.,.
-Ну і нашла за каго ісьці!
-А што?Жывы вахмістр лепшы за нябошчыка-палкоўніка. Г.Л.

## АДАМСЦІЎ.

Прышоў пан да ксяндза ды жаліцца,што яго дачыста абакралі; ксёндз засьмяяўся і кажа:

-Яно і ня дзіва...Хай ба во мяне абкралі...але я разумнейшы...

Пан разсердзіўся,шапку на галаву ды за дзьверы.Хацелася яму адамсьціць за крыўду.

Наняў ён дзеля гэтага аднаго спрытнага чалавека,-той прыдумаў.

Аднаго дня,як ксёндз атпрауляў імшу ,ён прышоў у плебанію.Там ні кога на тую пару ні было.

Не трацячы ні аднэй мінуты чалавек палез у печ,выцягнуў мяса с капусты і зьеў;перад абразамі вісеў брыль |капялюх| ён узяў яго; у камодзе былі грошы-ён і іх падзяліў папалам ды й пашоў за дзьверы да касьцёлу,каб быць у споведзі.

Як ужо ён падышоў да ксяндза той пытаецца:

-Ну,якія маеш грахі?..

-Адзін грэх,ойча духоўны... Сьвіньню з капусты выгнаў...

-Дужа добра!Так заусёгды трэба!

-Другі грэх-брыль зьняў перад абразамі.

-Дужа добра!Кожны раз зьнімаць трэба шапку,ці брыль перад абразам.

-Трэйці грэх-грошы с ксяндзом падзяліў...

-Гэта таксама ня грэх:заўсёгды трэба помніць аб ксяндзу.

-Ну,дык,ойча духоуні,больш грахоў ніякіх не маю.

Вядома,што ксёндз даў пасьля гэтага разграшэньне.

Пасьля імшы ксёндз прышоў да плебаніі і толькі тады здагадаўся, што злодзея меў у споведзі.Пашоў да судзьдзі і далажыў аб крадзежы.

Прызваў судзьдзя таго чалавека прышоў і ксёндз.

Судзьдзя пытае у падсуднага:

-Ты украў у плебаніі?..

-Я,але я сам прызнаўся айцу духоўнаму і ён хваліў,казаў „дужа добра“ і нават даў разграшэньне.

.........................

Пасьля гэтага пан ужо с ксяндза падсьмеіваўся.

Падаў Асененко.

## ВЕЛЬМІ ЧУТКІ.

Начальнік крычыць на свайго пісара,хаця ён на гэта не заслужыў Той маўчыць і нічога не кажа.

-Што вы не разумееце?Вам жа ясным языком гаворацъ!

-Я,пане,маю вельмі тонкі слух кажа пісар,-і усё добра чую і разумею,калі мне хто ціха кажа,але нічагусенькі ня чую і не разумею калі на мяне хто крычыць.

Г.Леў.

oooooooooooooooooooooooooooooooo

## Усудзе.

Судзьдзя: -Вы,Сьвінарэнкаў,за зьнявагу Юркевіча і што выставілі яму хвігу павінны заплаціць тры рублі штрафу.

Сьвінарэнкаў: -Як нада,то трэба,-вымае і падае пяць рублей.

Судзьдзя: -Німа рэшты.

Сьвінарэнкаў: -Я ўжо ведаю,колькі хвіга каштуе;проша пану яшчэ рубель і проша для пана яшчэ хвігу.

В.Гаротны.

------------

Браты і сястрыцы!прысылайце у рэдакцыю„Авадня“жарты,сьмешныя апавяданьні ды рысункі.
Заахвочвайце да выпіскі„Авадня“.

Вышоў з друку і прадаецца популярны беларускі сьпеўнік -Цана 50 гр.

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН .

-За што німа цяпер у Вільні ніводнага беларускага драматычнага гуртка?

-Гм...Валэйша браўся арганізаваць,але,як сам астаўся без„Грамадзянскага Сабраньня",дык аб гуртку ня думае.

-Ці ж апроч яго німа ужо болей здольных да арганізатарскай працы людзей?А Аляхновіч,вядомы драматург, а Шчэнсновіч-знамяніты акцёр,а... ды ці мала здольных беларусоў ёсьць у Вільні!

-Так то так...але часам недахват грошы,а часам і Влада...як,памятаеш,студэнтам не дазволіла ставіць вечарынку...

-Глупства кажаш,братку! Влада мела рацію,бо не хацела,каб пяялі перад публікай гэдак„ублікаючыя" словы:Ад веку мы спалі...

-Не разумею!Што ж там у тых словах дрэннага,-спалі ну і спалі, а каму якое дзела да гэтага.

-Вось тут то і ёсьць прычына!

-У чым?

-У словах гэтых,што мы„ад веку спалі."

-Ну,напрыклад.

-Бо,відзіш,палякі ня хочуць, каб мы гарланілі са сцэны аб тым, быдта бы мы спалі ад веку і сьпім, а палякі,быдто бы,нас сьпячых пазабіралі пад сваю Владу...Бо у ва усей іхняй гісторыі ні адным словам не успамянута,што яны на сьпячых калі небудзь напалі ды і не нападалі:яны занадта адважны і гоноровы у ваенных пытаньнях.

-Ну,калі яны гэдак гоноровы, тады...тады не варта гэтага гімну пяяць,а выдумаць іншы,або зусім бяз гімну ставіць вечарыны.

-То то яно і ёсьць,што і нашы ня хочуць адказацца ад гэтага гімна.

-Яно ж так...Да забароненага кожны мае большую ахвоту.

Антось з Лепля.

oooooooooooooooooooooooooooooooooo

Усіх тых каму пасланы былі пераводы просім аб хутчэйшай прысылцэ грошы за другі квартал.Праз неакуратнасьць сабе шкодзім.

oooooooooooooooooooooooooooooooooo

-Ці вы чыталі у„Дзенніку Віленскім"аб„крывавым"плебісцыце у Жодзішках,дзе адзначаецца,што польская людна сьць была зьбітая |змасакрована|.

-Ну як жа чытаў.А нашто пытае васпан?

-Бо я чуў,што там ніхто крыві не праліваў.

-Ну пэўна што не!

-Дык чаму гэта тут гэдак напісана?

-Ці ж ты да гэтай пары яшчэ ня ведаеш,што,чытаючы гэту газэту, трэба мець свой розум і не ўсяму таму верыць,што аб беларусах пішэцца.

С.Крапіва.

oooooooooooooooooooooooooooooooo

### У калідоры староства.

Сторож да сяляніна:

-Ту паліць не вольно!

-Дык я ж нічога не палю.

-ну!ну!тылько без жартуф!

-Гэта пан хіба жартуе,бо я бачыў,як пан недаўна у печцы запаліў,а я толькі падышоў прыкурыць.

С.Крапіва.

------------

Жонка да мужа:

-Ах ты сякі-такі!Калі яшчэ раз прыдзеш позна да хаты ня вытрымаю-кінуся у возера.

-Нічога,жартуеш...Тамака і так ужо шмат гусей плавае.

Г.Л.

## ДОБРЫ СПОСАБ.

Адзін абвінавачаны,баючыся быць засуджаным,просіць рады у адваката і кажа:

-Што мне рабіць,парайце...Калі апраўдаюся,дык заплачу пану адвакату у тры разы болей.

Адвакат падумаў троху і кажа:

-Вам застаецца толькі прыкінуцца дурнем...Як у вас што запытаюць, дык бараніцеся вось,толькі,гэткімі словамі: ну дык што,ну вот яшчэ...

,Праз колькі дзён абвінавачаны зьяўляецца у суд-судзьдзя і пытаецца:

-Вас вінавацяць у фальшаваньні дакумэнтаў?

-Ну дык што?

-Дык вы ня лічыце гэта за праступак?

-Ну во яшчэ...

-Вы...вы...мусіць вы нічога апроч гэтых слоў ня умееце сказаць?

-Ну дык што?

-Вас абвінавацілі,а вы дурака сабой паказуеце.

-Ну во яшчэ!

Пасьля гэтага судзьдзя абярнуўся да тых,што абвінавачвалі ды й кажа:

-Ці-ж гэты дурніца можа што падрабляць,або фальшаваць,калі ён нат гаварыць ня можа.,і прагнаў яго з суду.

Як ужо ён выйшоў на вуліцу да яго падходзіць адвакат,каб атрымаць дакляраваныя грошы.

-А што ці-ж блага парадзіў я табе?..вось і выйграў на судзе

А той у адказ спакойна:

-Ну дык што?

-Гм...я хачу атрымаць абяцаныя грошы.

-Ну во яшчэ...

- Эге,дык ты і мне прыкінуўся дурнем?

-Ну дык што?

-Ды ты са мной гавары сьмела-гэта-ж ня ў судзе.

-Ну во яшчэ!..

Адвакат сцяміў,што ужо ня дойдзе з ім да ладу,плюнуў у бок і яны разышліся.

М.Малевіч.

oooooooooooooooooooooooooooooooo

Ці Вы за „АВАДНЯ" плацілі,ці яшчэ не?

## Халодныя бліны.

Адам штодня прыхадзіў да аднаго гаспадара у час абеда.Гаспадар яго доўга карміў.Гэта яму |гаспадару| так апрыкрыла,што ужо ня ведаў,як ад Адама атчаліцца,і што яму сказаць.

Аднаго дня,калі прыйшоў ізноў да яго Адам,ён і кажа:

-Паслухай,браток!Можа зьясі халодных бліноў?

-Чаму-ж не!З прыемнасьцю,-адказвае той.

-Ну дык,калі ласка,прыдзі заўтра:сягоньня бліны яшчэ гарачы.

Лабудзь.

----------

## Адвакаты.

Гавораць паміж сабой два адвакаты:

-Вось,я,калега,табе пахвалюся, што выйграў справу,якой і выйграць зусім ня можна.

-Гм...Як -жа ты выйграў,калі справа тая яшчэ не разглядалася?

-Грошы за яе я наперад ужо атрымаў,дык я,значыцца,ужо і выйграў,а чым самая справа скончыцца мяне зусім не цікавіць.

----------

## У фактара.

-Пане Шмуйла.Якую ты мне ўчора кухарку прыслаў?

-А сто?

-Ды яна мяне абакрала уночы.

-Дзякуйце,панічка,Богу,сто яна вас толькі абакрала,-на гэтым тыдні мі адрэкамэндавалі гэткая асоба,сто чуць не парэзала гаспадарсў...

А.С.

----------

## АДГАДКІ.

1.Трэба сесьці.

2.Кніжка,3.Заяц пад мокрым кустом. |Глядзі стар.3.|

## ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ.

Калісь-то наш пан Рафаловіч
Чацьвёрку спрогшы разяжджаў
А сягоньня Янка Голуб
Зусім не так яго спаткаў.

-Дзень добры пану, шапку зьняўшы,
Янук пана прывітаў.
-Дзень добры Янка! пастарэў ты:
Цябе я ледзь ужо спазнаў!

-Ня дзіва пан, што я зьмяніўся,-
Янка пану адказаў,-
-Але во пан перамяніўся
Ды які лёгкі панок стаў!

-Што за ліха мой паночку,
Ад чаго пан так зьлягчэў
Калісь-пан пенаю чацьвёрка
Цяпер адзін і не спацеў.

„Бывала с коні пена валіць,
А пан у будзе нібы сьпіш;
Калі хто пану шапку зьнімець,
Дык пан ня відзіш, ні глядзіш.

Цяпер бяда: адзін канек
І сам жа лейцы пан дзяржыць
Адзін панок-адзін канёк
І конь, як хоча, так бяжыць.

Б.Гаротны.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

## АБВЕСТКА.

У Маладэчне прапала бабуля. Радня вельмі занепакоена. Прыметы старой: гарбатая, бяз зубоў, зьвяглівая, уцяць можа.

Калі хто знойдзе...можа забраць яе да сябе,-будзем дзякаваць.

Радня.

---

## ПАРАДЫ

у справе палягчэньня выплаты падаткаў.

1. Калі цяжка з грашыма, дык прадаць карсўку-будзе лягчэй.

2. Калі не пад сілу аднясьці, дык войт чалавека падашлець-паможа.

3. Ну, а калі, пасьля гэтага, зусім будзе трудна, дык бяда малая, што гаспадар скапуціцца-нехта спадчыну заплаціць.

Арк.Б.

-------------

-Як ты малады быў цыганка варажыла, што у цябе дзяцей ня будзе.

-Дзіўны ты! У мяне і цяпер ніводнага, а толькі у жонкі дванаццацёра

--------

На споведзі.

Поп:-Як устаеш, што перш за усё кладзеш на сябе?

Спаведнік.-Кашулю ...

## Шарж.

Хацелі мы паказаць яго, нашага знамянітага даволі „дзеяча" але ён схаваўся за бутэлькай „Бачэўскага."

Мо хто адгадае?

НАША ПОЧТА.

Гр.гр.Мурашка,Карабейнік,Ромэйко,Аляхновіч,Грышкевіч і Чэрвінскі,пас.Ярэміч і сэн.Назарэўскі:ад Вас дакляраванага мы не атрымалі яшчэ.

Да чытачоў!

Паважаныя грамадзяне!Стыдна нам робіцца,як бяромся пісаць гэтыя строкі,бо на кожнай старонцы напамінаем аб тым самым,значыцца аб падпісных грашах.

Нашы грамадзяне і вухам не вядуць...І ня толькі некаторыя вясковыя не адчуваюць патрэбы плаціць за часапісь,дык нат частка гэдак званай„інтэлігенцыі" любіць чытаць на дармаўшчынку.

Гэтае замілаваньне у дармавым ёсьць найвяліікшай болькай на беларускім арганізме.

Гэтая прывычка да дармавога падкапала хундамант ня толькі кніжнай літэратуры беларускай...

Хто ж захоча друкаваць свае творы,каб пасьля яны бутвелі у кнігарні?

Ахвота да дармаўшчынкі забівае нашы часапісі,якія у вялікай лічбе родзяцца ,але ўраз жа і заміраюць.

„Авадзень"пакуль жыве будзе хапацца лекаў на гэту агульную хваробу.

У № 10 мы пададзім фаміліі неакуратных,мо гэтым некаторых разбудзім з глухаты і нядбайласьці.

Наперад просім ня гневацца.

Рэдакцыя.

Да ведама чытачоў.

Беларускія кніжкі,журналы,газэты а таксама усякія канцэлярскія прылады паперу сшыткі і інш.можна купіць зусім танна у БЕЛАРУСКАЙ КНІГАРНІ,Вільня,З А В А Л Ь Н А я 7.

Яшчэ падаткі...





Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:Wilno,Завальная 7,пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3 м.1 зл.80 гр.,на паўгода-3зл.50гр.,на год-7зл. усяго. За граніцу на год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у Вільні.